ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 47 (1593) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 23 ЛІСТАПАДА 1986 г. ЦАНА 10 зл.

## ЗЯЛЁНЫ ПАРОМ

Вяртаюся зноў і зноў,
Стрывожана
цягне
патрэба
Да кроўных жыццёвых асноў,
Крыніцы,
рабіны
і неба.
Пакуль яны ёсць —
жыву
І я разам шчаслівы,
У лузе кашу траву,
Адпачываю маўкліва.

Мне сёння бліжэй, мілей
У свеце не лёгкім, не простым
Сцяжынка,
лісток,
салавей
І хмарка над коласам росным
Вяртаюся зноў і зноў
Да лоз над ракой у тумане,
Да чулых бяроз і кляноў,
Да роднага ў полі кургання.
Хай гром на дасвецці,
гром,
Ды той, што зямлю адмывае
І гоніць
зялёны паром
У светлы мой край
З жаўрукамі.

Уладзімір Карызна



У Дарожках. Фота Я. Целушэцкага.




### ДЗЯЎЧАТЫ ЗАГУБЯЦЬ ГАСПАДАРКУ!

Аўрора ў сваім фельетоне „Сын", змешчаным у трыццаць пятым нумары „Нівы", піша пра хлопца Ваню, якому напляваць на гаспадарку бацькі і які лічыць, што быць гаспадаром гэта няшчасце, ну проста жыццёвая катастрофа! Ён не глядзіць на тое, што гаспадарка бацькі вельмі добрая, дагледжаная, грашавітая і дае яна незалежнасць. Ён лепей палы майстра будзе трымацца на фабрыцы якой гайнаўскай, каб толькі не на гаспадарцы застацца, каб толькі не ў поле ісці араць ды сеяць, хлеб рабіць. Бацькі Вані маюць усё, што трэба: і будынкі акуратныя, і машыны, — але Ваня да іх не вернецца. Сын іх вырас на пустадомка, яму тацулькі ды дзеўкі ў галаве-булаве. Ён, можа, калі і зразумее, што зрабіў, але не цяпер. Ён, на жаль, прыклад цэлага нашага маладога пакалення, якому здаецца дурнотаю рабіць зямлю, фраерствам!

Трэба падумаць трохі і рацыямі таго Вані, як ні наіўнымі яны нам бачацца, як ні лёгкадумныя яны. Гаспадар наш, вядома, цяжка працуе, усё-такі, хоць не так па-конску, як даўней. Справа ў тым, што такія Вані сядзяць у нас і па гмінах, і яны не шануюць гаспадара, ён у тых гмінах таўчэцца з дзвярэй у дзверы, ад сакратаркі да бухгалтаркі, і назад. У гмінах нашых няма Еўропы, ніхто не скажа гаспадару добрага слова, не прывітае яго. Адносяцца да яго, усё роўна бы да валацугі якога, што аббівае парогі спакойныя.

Але нават і не ў гэтым справа. Прычына ўцёкаў Вані ў горад перш за ўсё такая, што на гаспадарцы ён застаўся б адзінадзінюткі: знайдзіце мне сёння такую дзяўчыну, якая хоча пайсці замуж за земляроба, за хлебароба, за гаспадара!!! У Беластоку тым хутка па дзве дзеўкі будзе на аднаго кавалера, столькі іх назбягалася з вёсак і хутароў на гарадскія асфальты і тратуары. А ў вёсцы, калі дзе і ёсць яшчэ якая дзяўчына, дык адна на дзесяцёх кандыдатаў-жаніхоў. А гэта найважнейшая справа, асабліва, калі чалавек яшчэ малады. Якое выйсце? Прызнацца, сам я не ведаю. Прымусу ж тут не зробіш.

Гаворым: п'янства, распуста. Так, усё гэта так. Але трэба задумацца, чаму тое п'янства і распуста? Якія прычыны таго, што спакойны чалавек і недурны пачынае запіваць? І сярод

(Працяг на стар. 3)

## ГАРАДОЦКІЯ СПРАВЫ

21 кастрычніка г.г. у Гарадоцкім доме культуры імя Кастуся Каліноўскага адбывалася гмінная справаздачна-выбарная канферэнцыя ПАРП. У гэты дзень у Гарадку панаваў урачысты настрой. Удзельнікаў канферэнцыі сардэчна вітала школьная моладзь, гарцэры. Усім прыбыўшым дзяўчаткі прышпілялі чырвоныя банцікі. Школьнікі ўручылі кветкі прэзідыуму канферэнцыі, а ў час перапынку выступілі з мастацкай праграмай.

У пачатку канферэнцыі старшыня кантрольна-рэвізійнай камісіі Ваяводскага камітэта ПАРП Ян Кузьма ўручыў 16-ці асобам кандыдацкія партбілеты. Трэба адзначыць, што сёлета ў рады кандыдатаў партыі прынята ўжо 53 чалавек, сярод якіх пераважае маладое пакаленне. Ад імя новых кандыдатаў у члены ПАРП выступіла Ніна Маркевіч, якая ўрачыста прысягала верна служыць партыі.

У справаздачна-праграмным дакладзе і выступленнях дэлегатаў канферэнцыі было закранута мноства спраў Гарадоцкай гміны.

Адной з вельмі важных нявырашаных праблем з'яўляецца дзяржаўны фонд зямлі, раскінуты па шматлікіх вёсках. На 30 верасня г.г. было яго 2494 гектары, а пад канец года будзе 2700 га. У гэтай гміне неабходна ПГР, але стварэнне яго патрабавала б вялікіх грашовых сродкаў.

Другая праблема — гэта нізкія ўраджаі. Сярэдні ўраджай чатырох асноўных збожжавых культур неяк не можа перавысіць 20 цэнтнераў з гектара. Замала выкарыстоўваецца мінеральных угнаенняў (107 кг на 1 га), недастаткова тут агратэхнічных паслуг, хімізацыі, мала ўводзяцца лепшыя сарты. Такім чынам, неабходна тут павышаць сельскагаспадарчую культуру.

Наступнае істотнае пытанне звязана з меліярацыяй. Сёлета пашыраецца і паглыбляецца рэчка Дзерняксўка. Меліярацыяй ахоплены таксама зялёныя ўгоддзі над рэчкай Супраслю ў верхняй яе частцы. Гэтыя работы будуць закончаны ў 1988 годзе. Меліярацыя значна дапаможа ў павелічэнні збору сена, а ад яго ж залежыць развіццё жывёлагадоўлі.

Але каб можна было без клопатаў даязджаць да сенажацяў і палёў, трэба рамантаваць дарогі. У гміне ёсць 5 км асфальтаванай дарогі, 45 км — брукаванай і 40 км — жвіраванай. Астатнія — гэта палявыя і лясныя дарогі даўжынёю 220 кіламетраў. Сёлета закончылі пракладку асфальту на дарозе Міхалова-Гарадок і часткова на вуліцы Свярчэўскага ў Гарадку. Закончаны работы пры жвіраванні дарогі праз Зялёную ў напрамку Ялоўкі і заканчваецца выкананне прац на дарозе, спалучаючай Скраблякі з Вераб'ямі.

Шмат патрэбных работ у гміне выконваецца пры дапамозе грамадскіх пачынаў. Вось у Вейках цяпер будуецца, а ў Скраблякох рамантуецца святліца. Грамадскай працай рамантуюцца таксама школы ў Залуках,

(Працяг на стар. 3)

 




## АБ НАЙПРЫГАЖЭЙШЫХ, НАЙРАЗУМНЕЙШЫХ І НАЙЛЕПШЫХ. (1)

Сёння хачу закрануць справу, якая датычыць калі не большасці, дык вельмі вялікай колькасці бацькоў. Хачу гаварыць аб памылковай сістэме таго выхавання, якое яны прымяняюць у адносінах да сваіх дзяцей. Вядома, што амаль усім бацькам і асабліва маці сваё дзіця здаецца найпрыгажэйшым, найразумнейшым і найлепшым. І вось такое глыбока суб'ектыўнае і вельмі часта надта адлеглае ад праўды перакананне многія бацькі стараюцца на кожным кроку зашчапіць дзіцяці, пачынаючы ад таго моманту, у якім дзіця пачынае што-колечы разумець. А трэба сказаць, што паняцце аб тым, што яно найпрыгажэйшае, найразумнейшае і найлепшае, амаль кожнае дзіця схватвае вельмі хутка і як штандар узнімае яго над сваёй галавою. Хто з нас не быў тыранізаваны шматлікімі мамамі, якія пры сваіх дзецях паўтаралі як нешта геніяльнае прымітыўныя іх выказванні, або захапляліся, як высакародныя тыя іх учынкі, якія ў ніякім выпадку высакароднымі не былі.

На жаль, вельмі многія дзеці выхоўваюцца ў атмасферы культу ўласнай фізічнай і духоўнай дасканаласці. Праўда, часам, хоць і даволі рэдка, паяўляецца і тэндэнцыя зусім адваротная. Праяўляецца яна ў тым, што бацькі не шкадуюць сваім дзецям пастаяннага асуджэння, прыпісваючы ім і брыдоту, і дурноту. Трэба сказаць, што і такая тэндэнцыя небяспечная. Справа ў тым, што можа яна спрыяць развіццю ў душы дзіцяці комплексу горшасці і непаўнацэннасці. Сёння, аднак, хачу гаварыць аб тэндэнцыі першай, якая вядзе да зараджэння ў дзіцяці комплексу звышпаўнацэннасці, надзвычайнасці, выключнасці, геніяльнасці. Вядома што так выхаванае дзіця становіцца ў жыцці страшэнным эгаістам. Пачынае яно насіць у сэрцы перакананне, што якраз яму ўсё можна тады, калі іншым нельга нічога. Пачуццё бязмежнай свабоды вядзе такое дзіця да пачуцця ахвоты панавання. Ахвярамі яго часта становяцца якраз бацькі. А вось вам пачэрпнуты з жыцця прыклад. Бацькі вядуць па лесвіцы на вуліцу з кватэры пяці-шасцігадовага „тэрарыста“. Ён, найпрыгажэйшы і найразумнейшы, ідзе з мінай Напалеона. Затрымліваецца амаль на кожнай ступеньцы, тупоча нагамі і крычыць бацькам: „Я вам пакажу! Я вам пакажу!“ Збянтэжаныя бацькі, саромячыся галоўным чынам суседзяў, якім, мабыць, сотні разоў гаварылі аб геніяльнасці сваёй пацехі, не вельмі ведаюць, што зрабіць з разбэшчаным бамбізам. Затрымліваюцца, разглядаюцца бездапаможна і, каб залагодзіць справу, адказваюць ва ўгоду сыночку: „Пакажаш, сынок, пакажаш!“ Ваяўніча настаўленаму „Напалеону“ выразна не адпавядаюць такія міралюбівыя адносіны бацькоў і ён, каб раззлаваць іх, на гэты раз мяняе стратэгію і павісквае: „Ну, дык вам не пакажу! Ну, дык вам не пакажу“! Збітыя з панталыку бядзягі-бацькі ўжо самі не ведаюць, што гаварыць любімцу, і той, пакуль выйдзе на вуліцу, давядзе бацькоў да белай гарачкі. „Тэрарыст“ не многа яшчэ разумее з акружаючага яго свету, але разумее адно: яму, найпрыгажэйшаму, найразумнейшаму і найлепшаму, усё дазволена, а добра яму толькі тады, калі іншым дрэнна. А як жа гэтыя дзіцячыя „арыстакраты“ паводзяць сябе сярод сваіх равеснікаў на панадворку або нават у чужой кватэры? Уводзяць яны драконскія законы ў гульнях і забавах; калі толькі прысут-

(Праціяг на стар. 5)




### МІНСК

Гібкі вытворчы модуль, прызначаны для аўтаматычнай апрацоўкі базавых і корпусных дэталей, распрацавалі спецыялісты Мінскага вытворчага станкабудаўнічага аб'яднання. Ад гэтага унікальнага базавага вырабу, што ўвабраў у сябе апошнія дасягненні навукова-тэхнічнай думкі, станкабудаўнікі павядуць лік серыйна выпускаемых шматаператыўных робатаў — элементаў будучых бязлюдных вытворчасцей. На прадпрыемстве ў супрацоўніцтве з вучонымі АН БССР, Белдзяржуніверсітэта і іншых навуковых цэнтраў рэспублікі шырока разгарнуліся даследаванні па павышэнню надзейнасці і даўгавечнасці прадукцыі з маркай аб'яднання.

### ГОМЕЛЬ

У знак прызнання алгебраічнай школы, створанай трэць стагоддзя назад вядовым вучоным, акадэмікам АН БССР С. Чуніхіным, у Гомельскім дзяржаўным універсітэце прайшоў 10-ты ўсесаюзны сімпозіум па тэорыі груп. У яго рабоце прынялі ўдзел каля двухсот вучоных, амаль з 60-ці гарадоў краіны. Яны абмяняліся метадамі сучасных даследаванняў, абмеркавалі магчымасці прымянення матэматычнай навукі ў прыродазнаўстве, інцых тэарэтычных і прыкладных галінах.

### ГРОДНА

Два новыя тралейбусныя маршруты звязалі буйнейшы мікрараён „Дзевятаўка“ з цэнтрам і іншымі жылымі масівамі горада. Цяпер зручным электрычным транспартам карыстаюцца жыхары ўсіх мікрараёнаў. Агульная даўжыня адзінаццаці тралейбусных маршрутаў перавышае 180 кіламетраў. Палепшан і аўтобусны рух, што звязана са здачай у эксплуатацыю новага, трэцяга па ліку, аўтамабільнага моста цераз Нёман.

### БАБРУЙСК

„Абутак“ для мікралітражнага аўтамабіля „Ака“ пачалі выпускаць бабруйскія шыннікі. Тут выраблена партыя бяскамерных пакрышак, дарамонтны прабег якіх складае 45 тысяч кіламетраў. Канструкцыю навінкі распрацавалі спецыялісты навукова-даследчага інстытута шыннай прамысловасці, а работнікі вытворчасці аб'яднання „Бабруйскшына“ арганізавалі ўчастак, для якога самі ж вырабілі тэхналагічнае абсталяванне. Магутнасць участка — дзесяць тысяч пакрышак у год.

### СЛАЎГАРАД

Буйны цэх па вытворчасці вадкіх кармавых дражджэй уведзен у строй на міжгаспадарчым кормапрадпрыемстве „Кастрычнік“. Яго сучасная магутнасць — трыста тон каштоўных дабавак у рацыёне жывёл. Амаль поўнасцю будуць забяспечаны патрэбнасці ферм буйной рагатай жывёлы ўсіх калгасаў і саўгасаў раёна.

### ВІЛЕЙКА

25 відаў лекавых траў вырашчана на доследных участках Вілейскай станцыі юных натуралістаў.

На акуратных градках нямала раслін, якім яшчэ нядаўна пагражала поўнае знікненне. Па заданню феналагічнага цэнтра Геаграфічнага таварыства СССР вучні праводзяць розныя доследы, выконваюць канкрэтныя даручэнні вучоных. Члены гуртка актыўна ўключыліся ў конкурс па ахове навакольнага асяроддзя. Вопыт беларускіх школьнікаў рэкамендаван ВДНГ СССР для шырокага распаўсюджання.

### ДРАГІЧЫН

Тут уведзена ў эксплуатацыю першая на Палессі квазіэлектронная аўтаматычная тэлефонная станцыя „Выток“ на 2.048 нумароў. Яна забяспечвае надзейную і ўстойлівую сувязь дзякуючы таму, што канструктыўныя элементы герметычна закрыты. „Выток“ дае магчымасць наладзіць рад дадатковых паслуг — пераадрасоўку выкліку, скарочаны набор часта выклікаемых абанентаў, арганізацыю канферэнц-сувязі.

Квазіэлектронныя станцыі атрымаюць таксама раённыя цэнтры Пружаны і Жабінка.

### СПОРТ

Тэніс. Чэмпіянат краіны адбыўся ў Ташкенце. Сярод яго пераможцаў — мінчане 15-гадовая школьніца Н. Зверава — у адзіночным разрадзе і С. Леанюк — у мужчынскім парным (разам з масквічом А. Зверавым). Н. Зверава разам з Л. Месхі з Тбілісі занялі другое месца ў жаночым парным, а С. Леанюк з А. Елісеенка з Данецка сталі сярэбранымі прызёрамі ў змешаным разрадзе.




### „ДАХ“ ДЛЯ АГЕНТАЎ

Справа Нікаласа Данілофа — карэспандэнта амерыканскага штотыднёвіка „Ю.С. ньюс энд уорлд рыпорт“, выкрытага нядаўна ў Маскве ў шпіёнскай дзейнасці, паводле слоў іншага амерыканскага часопіса „Ньюсуік“, зноў завастрыла ўвагу на далікатным пытанні — якія іменна адносіны існуюць паміж амерыканскімі журналістамі і Цэнтральным разведвальным упраўленнем ЗША? Паводле слоў былога карэспандэнта газеты „Чыкага дэйлі ньюс“ Кейса Біча, любы амерыканскі журналіст, які працуе за мяжой, проста не выконвае сваіх функцый, калі ён не падтрымлівае кантактаў з ЦРУ.

Яшчэ ў 70-х гадах у сувязі з публічным выкрыццём многіх брудных махінацый ЦРУ сенат быў вымушаны правесці спецыяльныя слуханні па гэтаму пытанню. Бурнае абурэнне грамадскасці прывяло да таго, што ў кангрэс ЗША быў унесены законапраект, які забараняў ЦРУ выкарыстоўваць журналістаў для сваіх тайных аперацый. Аднак пад націскам уплывовых вашынгтонскіх колаў гэты законапраект быў пахаваны. Справа абмежавалася тым, што кіраўніцтва ЗША зацвердзіла „правілы“, якія фармальна забаранялі вярбоўку прадстаўнікоў друку. Але і гэтыя „правілы“, як паказала жыццё, засталіся на паперы.

„Псеўдаабмежаванні на вярбоўку карэспандэнтаў могуць быць зняты простым указаннем дырэктара ЦРУ“, — адзначае газета „Бостан глоб“. „Пытанне аб магчымасці ўдзелу амерыканскіх журналістаў у разведвальнай дзейнасці застаецца адкрытым. У нас на гэта няма забароны“, — заявіў, выступаючы нядаўна па вашынгтонскім тэлебачанні, старшыня спецыяльнага сенацкага камітэта па разведцы Дэвід Дарэнбергер. „ЦРУ дазволена выкарыстоўваць журналістаў, якія працуюць на замежныя органы друку і радыётэлевяшчанне, у сваіх аперацыях па зборы разведвальнай інфармацыі за мяжой“, — піша газета „Вашынгтон таймс“.

Амерыканскі друк паведамляе, што ЦРУ трымае „ў сферы свайго ўплыву“ больш як 800 газет і іншых перыядычных выданняў, прэс-службаў, інфармацыйных агенцтваў. І гэта лічба з году ў год працягвае ўзрастаць. Як адзначаў амерыканскі часопіс „Ролінг стоун“, на працягу апошніх гадоў сакрэтныя заданні ЦРУ выконвалі па меншай меры 400 амерыканскіх журналістаў з вядучых органаў масавай інфармацыі ЗША.

Навошта патрэбны журналісты ЦРУ? Паводле слоў часопіса, яны „выконваюць“ увесь набор сакрэтных заданняў — ад збору інфармацыі да ажыццяўлення ролі сувязных са шпіёнамі ў камуністычных краінах“. „Многія амерыканскія журналісты прызнаюць, што яны прадстаўлялі ЦРУ справаздачы аб сваіх камандзіроўках у сацыялістычныя краіны, — канстатуе каліфарнійская газета „Мерк'юры ньюс“. — А такія органы масавай інфармацыі, як агенцтва ЮПІ і тэлекампанія Эй-бі-сі, часопісы „Тайм“ і „Ньюсуік“, газеты „Нью-Йорк таймс“, „Майамі геральд“ і рад іншых, служылі „дахам“ для агентаў і тайных аперацый“.

Э. Б.



 

# ПЕЙЗАЖЫ ДРУЖБЫ У БЕЛЬСКАЙ „ЭЛЬВЕ"

Эдвард Грэля, вядомы польскі жывапісец, найбольш займаецца пейзажам. Вучыўся ён у Акадэміі мастацтваў у Варшаве. У апошнюю вялікую вайну разам з савецкімі салдатамі вызваляў Варшаву. Тады замацавалася ў ім пачуццё дружбы з людзьмі Краіны Саветаў. З таго часу мастак наведваўся да сваіх савецкіх сяброў. Ствараў карціны краявідаў розных куткоў Савецкага Саюза.

Іншы мастак, Эдуард Паноў стаў на работу ў Доме савецкай навукі і культуры ў Варшаве. Зацікавіўся ён пейзажамі Польшчы. Пазнаёміўся з Эдвардам Грэляй. Абодва яны, нягледзячы на розніцу ў сваіх гадах, а таксама вызнаваныя мастацкія плыні, знайшлі супольную мову творчасці і навязалі паміж сабою духоўны саюз. Ветэран вайны паразумеўся з хлопцам пасляваеннага пакалення. Пачалі супрацоўнічаць, абменьвацца вопытам. Дзякуючы дружбе гэтых двух майстроў жывапісу зрабілася магчымай супольная выстаўка іх работ.



Э. Грэля на бельскай выстаўцы.



Беларускія пейзажы Э. Грэлі.

Арганізавалі яе ў 1984 годзе намаганнямі ТПП-Р і Дома савецкай навукі і культуры. Выстаўка гэтая пабывала потым у шмат-якіх мясцінах Польшчы, а 25 кастрычніка г.г. апынулася ў вестыбюлі фабрыкі кандэнсатараў „Эльва" ў нашым Бельску. Заслуга ў гэтым старшыні гуртка ТППР на прадпрыемстве — Барбары Врублеўскай. Быў на адкрыцці выстаўкі і Эдвард Грэля, які расказаў пра сваю творчую работу і сяброўскія сувязі з Савецкім Саюзам. Грэля добра ведае і Беларускую ССР, дзе часта бывае. Яму вельмі да спадобы маляўнічая беларуская зямля, яе прырода і народ. Ён нават пахваліўся, што ў яго ёсць зяць-беларус, родам з нашых Кнаразоў, што на Бельшчыне. Яму прыемна пабыць на Беласточчыне.

На гэтай выстаўцы — трыццаць адна карціна Эдварда Грэлі, яго савецкія пейзажы, і дваццаць сем карцін польскіх пейзажаў Эдуарда Панава. Сярод карцін Грэлі знаходзім і беларускія пейзажы: „Лясная дарога ў Беларусі" „Узлессе каля Мінска", „Рака Бярэзіна", „Палескія веліканы". Ён не мог абмінуць і пакутную зямлю Хатыні — на карціне „Хатынь. Памяць" бачым помнік-могільнік усім беларускім вёскам, спаленым у вайну, помнік на фоне вогненнага лесу, які балюча напамінае нам пра жахі апошняй вайны.

Эдвард Грэля, паляк, і Эдуард Паноў, рускі, ствараюць сабою, сваім жыццём і творчасцю жывы сімвал дружбы паміж братнімі народамі.

**Ян Мордань**

# ГАРАДОЦКІЯ СПРАВЫ

(Працяг са стар. 1)

Валілах і Гарадку, паляпшаюцца дарогі да сенажацяў у вёсцы Валілы. Партыйныя і маладзёжныя арганізацыі супольна з вясковымі самаўпраўленнямі будуць надалей мабілізаваць жыхароў гміны на грамадскую працу.

Шмат чаго зроблена за мінулыя два гады і ў самім Гарадку. Адрамантаваны асяродак здароўя і Дом культуры, заканчваецца будова двух жылых блокаў. Надлясніцтва ў Валілах распачало будову шасцісямейнага жылога будынка, падрыхтоўваецца дакументацыя на будову ў Гарадку будынка для аўтаматычнай тэлефоннай станцыі, пошты і спулдзельчага банку. Для індывідуальнага будаўніцтва падрыхтаваны 32 пляцы. Пабудавана новая гідрафорня, якая ліквідуе недахоп вады ў Гарадку і дасць яе навакольным вёскам.

Гарадок мае вялікія клопаты з медыцынскімі спецыялістамі. У гэтую малую, нічым асаблівым не заманьваючую мясцовасць не хочуць прыязджаць дактары на пастаяннае пражыванне.

Адным з большых прадпрыемстваў Гарадка з'яўляецца так званая трыкатажка — прадпрыемства „Каро". Рабочы калектыў яе працуе ў нялёгкіх умовах. Часта не хапае электрычнай энергіі і сыравіны (у жніўні, напрыклад, не хапіла 30 тон сыравіны).

На канферэнцыі былі закіды ў адрас некаторых устаноў у Беластоку, між іншым, Кураторыі асветы і выхавання, якая недастаткова цікавіцца гміннай асветай. Не хапае тут метадычнай дапамогі ў дыдактычнай працы і інструктажу ў адміністраванні асветай.

Адчуваецца затое дапамога школам з боку патранацкіх устаноў. Напрыклад, ГС у Гарадку на ўласны кошт адрамантавала школу ў Каралёвым Мосце.

Па ініцыятыве партыйных арганізацый зроблена многа. ПОП у Белявічах выступіла з прапановаю стварыць на базе пункта механічных паслуг сельскагаспадарчы кааператыў. Дзякуючы таму, што гмінныя ўлады падтрымалі гэтую прапанову, кааператыў пачне дзейнічаць ад пачатку 1987 года. Па ініцыятыве гарадоцкай ПОП № 1 пабудавалі краму.

Каб яшчэ больш адчувальны быў уплыў на ўсе справы гміны, неабходна ўмацоўваць партыйныя арганізацыі, узнімаць на вышэйшы ўзровень іх працу, ствараць ім магчымасці палітычнага кіраўніцтва на месцы іх дзейнасці. Гмінны камітэт, яго экзекутыва, і, самае важнае, штатныя працаўнікі камітэта — павінны ўтрымоўваць цяснейшую сувязь з партыйнымі арганізацыямі і іх сакратарамі, гаварыў шматгадовы прэзас ЗБоВіДу Юрка Налівайка. Аднаўленне стылю працы партыі, падкрэсліў ён, трэба пачынаць ад сябе.

Гмінная канферэнцыя ПАРП ізноў выбрала І сакратаром 28-гадовага Юрку Цыванюка, праверанага партыйнага дзеяча.

**Міхась Хмялеўскі**




(Працяг са стар. 1)

моладзі вясковай п'юць, ой, як п'юць. Уявіце сабе маладога гаспадара, з якім не хоча гаварыць нават кульгавая дзеўка, а таму не хоча, што ён... гаспадар, гнойварочае, бачыце. Напрацаваўшыся за дзень на гаспадарцы, прыходзіць ён у свой дом, пусты дом — скажам: бацькі ўжо не жывуць — і што ён думае адзін у такім доме... Як яму жыць далей, бы пустэльніку якому? Што гэта вам: жарты?!

Гэта вельмі важная прычына заняпаду нашай сельскай гаспадаркі — знішчэнне пашаны да зямлі, да хлеба, да працы. Дапушчана векапомная памылка — усхвалена хітрасць, бяздзельніцтва, камбінатарства, здабыванне грошай фуксам. Хваліцца такі на вяселлі, як яму добра жывецца, нічога не робячы, не працуючы. І каб хто сказаў яму: пайшоў вон адсюль, гніда ты паршывая! Не, ніхто так не скажа, а ўсе адно разяўляюцца, слухаюць тую балбатню гультая з гладкай мордаю. Вядома, калі можна жыць без працы, дык на халеру працаваць!? Простае пытанне і просты адказ. Страшны!

**М. Панфілюк**

### АД ЛАЦІНКІ БОЛЬШЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ

Перачытваючы нашу „Ніву", я трапіў на артыкул, які мяне асабліва зацікавіў, а менавіта артыкул пра друкаванне нашага тыднёвіка лацінскімі літарамі. Гэтае пытанне застаецца нявырашаным, а рэдакцыя „Нівы" набрала тут вады ў рот, не выказвае яна свайго погляду на гэтае пытанне, па-мойму, важнае.

Часта бываючы ў людзях, я нераз чую ў гутарках, як людзі гавораць і пра „Ніву", а таксама і пра тое, чаму рэдакцыя не мае сваёй думкі ў закранутай справе. Я, асабіста, не лічу, што трэба па-цвёрдалобаму баяцца тае лацінкі, як чорт свянцонае вады. Не буду тут паўтараць, што ўжо сказаў Бутайла, але хачу падкрэсліць тое, што беларуская культура адраджалася ў дзевятнаццатым стагоддзі якраз на базе лацінскага шрыфту (рэшты, лацінкай напісаны былі і некаторыя старажытныя беларускія летапісы). Справа, відаць, у тым, што Вялікае княства Літоўскае, усё больш падпадаючы пад уплывы не толькі Польскай Кароны, але і культуры Заходняй Еўропы, уводзіла лацінскі алфавіт у сваю беларусамоўную дакументацыю нароўні з кірыліцай, якая заставалася ў спадчыне яшчэ ад Кіеўскай Русі і Полацкай Зямлі.

Тое, ці лацінка не зашкодзіць патрыятычнаму выхаванню беларусаў, асабліва іх моладзі, не павінна быць увогуле пытаннем. Кастусь Каліноўскі пісаў свае беларускія тэксты толькі лацінкаю, і Багушэвіч, і Гурыновіч, і Цётка, і шмат-хто з плеяды „Нашай нівы", потым Тарашкевіч і іншыя таксама карысталіся

(Працяг на стар. 4)

## ТАК БЫВАЕ...

# МІША

— Чаму я адзінокім застаўся? — паўтарыў пытанне старэйшы мужчына. — Я і сам няраз думаў пра тое. Быў жа з мяне самы прыгожы хлопец-кавалер на ўсю нашу вёску і хутары. Мо не верыш мне, дык папытай у людзей нашых.

— Веру я, веру, — ядказала яму. — Ведаю пра вас, вашы сябры і сяброўкі яшчэ і сёння ўспамінаюць, як вы былі маладым. Як хадзілі дробненькім крокам, бы гадзіннік. А дзяўчаты проста вачэй з вас, Міша, не зводзілі, загледжваліся на вас, быццам зачараваныя.

— Во, еама бачыш, як жыццё можа скласціся ў чалавека, хоць здаецца, ўсё адбывалася ў лад і ў склад... Калісь дзяўчына магла невядома як мілаваць кавалера, але ўсё роўна пра яе каханне вырашалі татка з мамкаю, і замуж яна выходзіла за таго, за каго яны захацелі, каб выйшла. Была дзяўчына каханая і ў мяне, а як жа. Юляй звалі яе. Кахаліся мы бяспамятна. Яна жыла толькі з маці сваёй ды з сястрою. Бедная была, як і я. Думаў: пажэнімся, то і разжывемся. Ужо сватоў прыбраўся я выправіць да яе, але тут-ка — на табе! — дачуўся, што Юля мая ўжо засватаная. У панядзелак якраз прыйшоў да яе хлопец з суседняе вёскі, і маці Юлі згадзілася аддаць дачку за яго. Ён быў замажнейшым за мяне, поля больш меў ды ўсяго іншага.

Выбраўся я на танцы ў свята і там убачыў я Юлю з нарачоным Сцяпанам (такое імя ў яго было). Падышоў я да іх, прывітаўся, як кажуць, чэсць чэсцю, усё акуратна, спакойна. Музыкі ўрэзалі нейкі танец, усе закруціліся ў скоках, а мы, утраіх, стаім ды глядзім на сябе. — Юля, — азваўся ўрэшце я. — Хадзі, Юлечка, затанцуем. А яна маўчыць, ні слоўца на тое. А Сцяпан той як не кінецца раптам на мяне. — Адыдзі! — крычыць ён. — Яна мая! Табе няма чаго і думаць больш пра яе. — Так, Міша, — ледзь прагаварыла Юля, а слёзы так і пасыпаліся, так і пасыпаліся з яе вачанят.

Я пайшоў. Павалокся дадому. І ад тае пары перастаў я глядзець на дзяўчат, нават жартам. От, часам пагавару з якою, але холад так і застаўся пасля страты Юлі. Бацька мой аднойчы надумаўся ажаніць мяне з такой вельмі працавітаю дзяўчынаю. Аднак, яе бацькі заўпарціліся. Неўзабаве пачалася вайна і не да жаніцьбы ўжо было.

Немцы вывезлі мяне на работы ў Кенігсберг. Як там былося мне, не буду гаварыць, не навіна гэта, зрэшты. Даволі таго, што пасля вайны вярнуўся я цэлым і жывым. Браты мае былі жанатымі, дзеці ў іх ужо з'явіліся. А я жаніцца не хацеў, Юля мне перад вачыма ўсё стаяла. Пайшоў я працаваць сторажам на гарадскіх складах; у параўнанні з жыццём на гаспадарцы добра я там меў.

Маці мая век свой пры мне дажывала. Калі яна памерла, дык браты пачалі блага адносіцца да мяне. Усё хацелі, каб я адрокся ад сваёй часткі гаспадаркі. А я — не і не! Не ўступіў ім. Узяўся адзін гаспадарыць. Браты з часам павыязджалі ў горад, пакідалі тыя гаспадаркі свае спадчынныя, за якія яшчэ не так даўно заядаліся са мною. Але адзін з іх — было ў мяне братоў тых! — застаўся, аднак. І сын яго цяпер тут жа жыве, гаспадарыць. Яны надалей не падаравалі мне сваіх прэтэнзіяў, чапляюцца, як і чапляліся. Няма мне ўжо і месца. Можа, каб жонка ў мяне была, дык не было б усяе тае калатнечы. А так — адзін і адзін. І хоць пабудаваўся я асобна, за вуліцай, усё роўна дападаюць яны да мяне. Сялянская, мужыцкая натура! Надумаўся нават пакінуць усё, наняць сабе дзе-лень кватэру, але, пагляджу я на сваю гаспадарку, на дом, пагляджу-пагляджу ды шкода зробіцца працы сваёй, укладзенай праз столькі жыцця, здароўя. Вельмі шкадую, што застаўся на вёсцы, трэба было мне з горада не вылазіць, раз туды дастаўся калісьці. Жыў там сабе, нікому не кланяючыся і нікога не баючыся, што за кавалак бацькаўшчыны сякераю зарубае ці кіём якім пакалечыць. Думаю часамі і так: тыя, што ў вёсцы, наракаюць, што вёска прападае, пусташэе, але, думаю, спрабуй з вамі выжыві тут, чалавеча!

**Аўрора**

## БЕЛАРУСІКІ

**1972**

Bandarczyk Wasil. Historyja biełaruskaj etnahrafii. Paczatak XX st. Minsk 1970. Rec.: Jakóbiec Marian, Literatura Ludowa, 1972, nr 3, s. 59—60.

Podokszyn Siemion: Rieformacjia i obszczestwiennaja mysl Biełorussii i Litwy. Wtoraja połowina XVI — naczało XVIII w. Minsk 1970. Rec.: Kosman Marceli, Przegląd Historyczny, 1972, z. 4, s. 716—719; Topolska Barbara M., Odrodzenie i Reformacja w Polsce, t. 17, 1972, s. 235—238.

Smułkowa Elżbieta, Wygonnaja Lilia: Z zagadnień rozwarstwienia semantycznego w słownictwie gwarowym. (Na przykładzie białoruskiej leksyki rolniczej). Studia Filologii Polskiej i Słowiańskiej, t. 12, 1972, s. 301—306, tabl.

**1973**

Maciejek Alicja: Postać diabła w tradycyjnych wierzeniach ludu białoruskiego. Euhemer, 1973, nr 4, s. 39—48.

Obrębska-Jabłońska Antonina: Czy ukraiński wpływ na toponimię białoruską? Slavia Orientalis, 1973, nr 2, s. 261—265.

Tyszkiewicz Jan: Proces slawizacji ziem dorzecza Niemna w VI—XI w. Przegląd Historyczny, 1973, z. 1, s. 1—23, mapy.

**1974**

Borba trudiaszczichsia Zapadnoj Biełorussii za socyalnoe i nacionalnoje oswobożdienije i wossojedinienije s BSSR. T. 2. (1929—1939). Minsk 1971. Rec.: Jagodziński Wiesław, Przegląd Historyczny, 1974, z. 4, s. 766—768.

Głuszkowska Jadwiga: Białoruskie słownictwo garncarskie w gwarach wschodniej Białostocczyzny. Studia Filologii Polskiej i Słowiańskiej, t. 14, 1974, s. 189—202.

Oszer Cecylia: Fleksja imienna grupy białoruskiej we wsi Jacowlany w powiecie sokólskim. Studia Filologii i Słowiańskiej, t. 13, 1974, s. 185—196.

Sawicka Irena: Zaimki wskazujące w gwarach białoruskich województwa białostockiego. Slavia Orientalis, 1974, nr 4, s. 451—454.

Ułaszczik Nikołaj: Oczerki po archieografii i istocznikow'edienija istorii Biełorussii fieodalnogo pierioda. Moskwa 1973 r. Rec.: Bardach Juliusz, Studia Źródłoznawcze, t. 19, 1974, s. 217—219.

**1975**

Deruga Aleksy, Z dziejów ruchu rewolucyjnego na ziemiach litewsko-białoruskich w 1918 r. „Z Dziejów Stosunków Polsko-Radzieckich", t. 11/12: 1975 s. 289—309.

Kozłowskij Pawieł, Magnatskoje choziajstwo Biełorussii wo wtoroj połowinie XVIII w. Minsk 1974. Rec.: Drozdowski Marian, „Kwartalnik Historyczny", 1975 nr 1 s. 179—182; Żitkowiez Leonid, „Roczniki Dziejów Społecznych i Gospodarczych", t. 36, 1975, s. 128—136, tabl.

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

# ЗНАК БЯДЫ

Здаўна я марыў аб тым, каб пабываць у віцебскім тэатры, які афіцыйна называецца:

**Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа.**

Па расказах сяброў і на аснове прачытанага я ведаў, што гэты тэатр, як мала які іншы ў Беларусі, нездарма на першым месцы сваёй назвы выдзяляе слова **„беларускі"**. Нават у папулярным рускамоўным даведніку пра *„Віцебск і яго наваколле"* асобным радком адзначаецца, што тут:

*„Спектакли идут на белорусском языке"*.

Творчы шлях у гісторыю віцебскі тэатр распачаў дакладна **21 лістапада 1926 года** спектаклем *„У мінулы час"* Г. Бэна. Значыць, ёсць нагода, каб адзначыць юбілей — **шасцідзесятыя ўгодкі,** — гэтай другой ў гісторыі беларускага тэатра прафесійнай драматычнай сцэны. Да 1945 года ён так і называўся: **Беларускі другі дзяржаўны тэатр** або ў скарачэнні — БДТ-2. Чаму БДТ-2? Таму, што ў гэты час працаваў у Мінску ўжо БДТ-1, якому ў пасляваенны час прысвоілі імя Янкі Купалы.

Кадры для БДТ-2 рыхтаваліся ў Маскве, у спецыяльнай, дзеля гэтага заснаванай у галодным 1921 годзе, **Беларускай драматычнай студыі.** Якраз выпускнікі гэтай студыі знайшлі прытулак у Віцебску, дзе разгарнулі вельмі шырокую творчую і паспяховую дзейнасць.

„Беларуская дзяржаўная драматычная студыя ў Маскве падрыхтавала мастацтву плеяду такіх яркіх імёнаў, як А. Ільінскі, П. Малчанаў, М. Бялінская, Я. Глебаўская, Р. Кашэльнікава, А. Радзялоўская, К. Саннікаў, С. Станюта, Ц. Сяргейчык, Л. Мазалеўская, М. Міцкевіч і іншыя...", — сцвярджае на старонках „ЛіМа" Андрэй Нікіцін, які выхаваўся ў цені БДТ-2, бо яго бацька, Л.А. Нікіцін, быў там тэатральным мастаком.

У залатым фондзе рэпертуару „коласаўцаў" назаўжды астаюцца такія спектаклі, як народная драма „Цар Максімільян", пастаўленая як адна з першых яшчэ ў 1926 годзе, затым — „Несцерка" В. Вольскага, якая ўвайшла на сцэну віцебскага тэатра ў 1941 годзе, а затым — „Гамлет" У. Шэкспіра (1946), „Раскіданае гняздо" Я. Купалы (1951), „Ворагі" М. Горкага (1952), „Чалавек з ружжом" М. Пагодзіна (1938). З гэтай п'есай упершыню ў беларускім тэатральным мастацтве паяўляецца сцэнічны вобраз правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі. Да гэтай рэпертуарнай катэгорыі прыналежыць таксама п'еса М. Шатрова „Шостае ліпеня", якую „коласаўцы" паставілі ў 1967 годзе.

У Віцебску шмат увагі ўдзяляюць беларускай драматургіі. На матывах коласаўскай трылогіі „На ростанях" была тут у 1956 годзе апрацавана пастаноўка „Навальніца будзе", ставіліся п'есы І. Шамякіна, К. Чорнага, А. Адамовіча і многіх іншых беларускіх аўтараў. З падмосткаў „коласаўскага" тэатра распачынаў сваё пераможнае шэсце па ўсіх саюзных і замежных сцэнах Андрэй Макаёнак. У Віцебску ставіліся п'есы Аляксея Дударава: „Парог" (вядомы і беластаччанам), „Радавыя" і „Вечар".

На сцэне гэтага тэатра ставіў сваю вядомую па ўсёй Беларусі п'есу „Званы Віцебска". **Уладзімір Караткевіч.**

У рэшце-рэшт у Віцебску наладжваюцца Беларускія тэат-

**Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р**

## ТАКАЯ ЎРОДІЛАСЯ

(піліпаўская)




Ой, Божэ, Божэ, тяжкою годіною  
проклялa маті малою дітіною.*)  
Можэ й нэ кляла — такая ўроділася —  
нэма того дня, коб я нэ журылася.  
Нэма того дня, ані той мінутонькі,  
коб нэ плакалі мое кары очэнькі.  
Ой, пуойду я там, дэ я раньшэ й ходіла —  
можэ зобачу кого віерно любіла.  
А як нэ його, то тавaрыша його —  
запытаюся про здоровечко його.  
Ой, Божэ, Божэ, колі той вэчур будэ?  
Колі про мэнэ наговораття людэ?

*) Парныя радкі паўтараюцца.

Ад Марыі Байгус, год 40, родам з в. Крывяцічы гм. Орля, і Анны Пісанка, год 40, родам з в. Краснае Сяло гм. Боцькі, абедзве спявачкі больш за 20 год жывуць у г. Беластоку, запісаў 17 кастрычніка 1985 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

## З СУДА

Даўно мы не заглядалі за дзверы судоў. Было лета, насычанае неадкладнай работай, і на разважанні пра дабро і зло не хапала нам часу. Злачынцы, аднак, у водпуск не падаліся. Вось агляд некаторых з іх вылазак. Папярэджваю ўсіх зацікаўленых, што на публікацыю пададзеных фактаў і прозвішчаў рэдакцыя атрымала згоду Ваяводскага суда ў Беластоку. Сённяшні агляд прысвяціў я злачынствам, выклікаючым найбольшую агіду, гэта значыць, згвалчанням.

Яшчэ ў красавіку 1986 года Кшыштаф Л., кавалер без прафесіі і без пастаяннага месца працы, падабраўшы сабе ў кампанію яшчэ чатырох падлеткаў, рашыў узяць прыцэл на дзяўчыну... ну, скажам, Яніну Л. Прывабілі яе да сябе, а затым біццём і пагрозай, што пакалечаць ёй твар на ўсё жыццё, прымусілі паддацца палавым зносінам. Распачаў сеанс закапёршчык гэтай сексвылазкі, Кшыштаф Л., а за ім паследавалі чатыры яго малалетнія сябры-саўдзельнікі.

15-гадовая дзяўчынка, назавем яе Басяй, 16 ліпеня стала ахвярай груповага згвалчання ў Беластоку. Злачынцамі аказаліся: Рышард К., чалавек ужо жанаты, але нідзе не працуючы, Здзіслаў В. — халасцяк, але таксама адзін з тых, што ганьбуюць нармальнай працай, ды яшчэ

(Працяг на стар. 11)

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

(Працяг са стар. 5)

прызнана канчаткова ўз'яднаным з Вялікім княствам Літоўскім. На княжацкі пасад у Галіцка-Валынскай Русі быў узведзены Баляслаў (праўнук вялікага князя літоўскага Трайдэна па ягонай дачцы Гаўдэмундзе і сын сястры атручаных князёў Андрэя і Льва), ён пры пераходзе ў праваслаўе атрымаў другое імя — Юрый. Такім чынам у Галіцка-Валынскай Русі пачалі спаборнічаць уплывы Кракава і Наваградка. Замацоўвала гэты саюз Лакетка і Гедыміна жаніцьба Лакеткавага сына Казіміра з Гедымінавай дачкой Альдонай. Альдона прыбыла ў Кракаў навесну 1325 года, прывозячы з сабой аграмадныя багацці і 24 тысячы вызваленых з няволі ў Вялікім княстве Літоўскім палоннікаў, захопленых падчас ранейшых нашэсцяў Віценевых і Гедымінавых дружын на польскія землі. Як чытаем у адным з летапісаў, „многа дрэннага палякам ліцвіны і жмудзіны раней зрабілі. Палякаў і мазуроў натоўпамі ў няволю бралі, так што аднаго паляка за грыўню, гэта значыць за дзесяць грошай літоўскіх у Літве і Белай Русі прадавалі, ды на коней і валоў літва паміж сабою іх заменьвала“.

І не дзіва, што доўга яшчэ пасля выбухала затоеная нянавісць палякаў да жыхароў Вялікага княства Літоўскага. Прыкладам гэтага трагічная смерць славутага гарадзенскага старасты і Гедымінавага зяця Давыда. У наступным, 1326 годзе, Гедымін накіраваў яго з адборнай дружынай у дапамогу свайму свату Уладзіславу Лакетку, які намагаўся адбіць раней захопленыя немцамі (Брандэнбургіяй) польскія землі па рэках Нотаці і Варце. Пасля ўдалага паходу, падчас якога войскі Лакетка і Гедыміна дайшлі аж пад Франкфурт на Одры, Давыд са сваёй дружынай накіраваўся дамоў, у Гарадзенскую зямлю. Іхным правадніком быў мазавецкі вой Андрэй Гост. Ён доўга сачыў за гарадзенскім старастам і, знайшоўшы зручны момант, прабіў яго пікай. Хоць і сам тут жа загінуў пад ударамі Давыдавых дружыннікаў, але, мабыць, такім чынам намагаўся адпомсціць не без удзелу крыжакоў за нашэсці на Мазоўша. У асобе Давыда старабеларуская дзяржава страціла выдатнага палкаводца.

Няцяжка сабе ўявіць, якая радасць запанавала на польскіх землях, калі стала вядома, што „страшныя ліцвіны“ сталі не толькі саюзнікамі караля польскага, пусцілі на волю ў бацькаўшчыну палоннікаў, пра якіх ужо і весткі загінулі, ды гэтыя змены замацаваныя асобай дачкі Гедыміна Альдоны (пасля прыняцця каталіцызму — Анны) — жонкі каралевіча Казіміра. Насельніцтва паўночна-ўсходніх польскіх зямель уздыхнула з палёгкай і ўзялося за адбудову і загаспадаранне зямель, знішчаных нападамі дружын Вялікага княства Літоўскага.

Не меншая радасць з уз'яднання са сваёй дзяржавай — Вялікім княствам Літоўскім — панавала сярод насельніцтва Дарагічынскай і Берасцейскай зямель. Амаль на 250 гадоў, бо аж да 1569 г. іхны лёс будзе непарыўна звязаны з лёсам старабеларускай дзяржавы — Вялікім княствам Літоўскім.

Пра падзеі ў гэтую чвэрць тысячагоддзя будзем разважаць ужо ў наступнай кнізе. Да чытання яе адрэзкаў у „Ніве“ запрашаю ў новым 1987 годзе.

**Мікола Гайдук**

ральныя фестывалі. У сёлетнім фестывалі на працягу дзесяці дзён паказана было 9 сцэнічных твораў, між іншым, „Вечар“ А. Дударава і „Знак бяды“ В. Быкава. Прызам „*За лепшае сцэнічнае ўвасабленне твора беларускай драматургіі*“, як сказана ў пастанаўленні журы фестывалю, адзначаны спектакль акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа „Вечар“. Значыць, віцебскі тэатр і на гэты раз вышаў пераможцам у мастацкім спаборніцтве з іншымі беларускімі тэатрамі. Яго гмах — у класічным „грэчаскім“ стылі — знаходзіцца на высокім беразе Заходняй Дзвіны, дзе зараз побач уліваецца ў яе Віцьба. Калісьці быў тут цэнтр старажытнага Віцебска, аб чым сведчаць адкапаныя рэшткі старога замка і назва вуліцы: Замкавая 2. Гэта адрас Віцебскага тэатра.

Уладзімір Пятровіч Ганчароў, пастаянны супрацоўнік газеты „Віцебскі рабочы“, запрасіў мяне ў гэты тэатр. Аказваецца, што ён шмат гадоў працаваў тут літаратурным кансультантам.

— Тут у нас на гастролях, — гаварыў Уладзімір Пятровіч, — Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя Максіма Горкага.

— Наш, віцебскі, зараз таксама на гастролях — паясніў мой сябра. — А „горкаўцы“ заўтра выступаюць са спектаклем „Знак бяды“. Гэта сцэнічны варыянт аповесці Васіля Быкава, апрацаваны маім лепшым другам **Валерыем Маслюком.** Спектакль вядзецца на мове арыгінала.

Я, зразумела, не мог прапусціць нагоду, каб паглядзець твор Васіля Быкава на сцэне.

Віцебскі тэатр умяшчае 670 месц. Усе яны шчыльна былі запоўнены. Не перашкодзіла гэтаму ані летняя спёка, ані час водпускаў і канікулаў, ані звычайны будзённы дзень, серада, 2 ліпеня 1986 года.

Аказалася, што мой сябра, Уладзімір Пятровіч, сапраўды, адчувае сябе ў гэтым тэатры, як дома. Дзесяткі людзей кланяліся яму або і непасрэдна віталіся з ім, а заадно і са мною. Гэтыя знаёмствы не захаваліся ў маёй памяці. Затое асталося незацёртае ўражанне ад багатага і шчодрага афармлення віцебскага тэатра.

— Нядаўна быў тут праведзены грунтоўны рамонт, — паінфармаваў мяне Уладзімір Пятровіч, а я вачэй не мог адарваць ад усяго таго, што бачыў. Асабліва ўразілі мяне элементы нацыянальнага характару, у якіх выкарыстоўваюцца вядомыя ў беларускай літаратуры персанажы. Адным словам, усё тут зводзіцца да таго, каб госць, які прыдзе паглядзець спектакль, ведаў і адчуваў на самым пачатку, што апынуўся ён у б е л а р у с к і м тэатры.

Занялі мы свае месцы. Прасторная, адкрытая для вачэй гледачоў тэатральная сцэна была запоўнена сапраўднымі прыладамі і рэчамі, якія адлюстроўваюць сялянскі побыт колішняй беларускай вёскі. Калёсы, часткі вазоў, ступы і многа, многа ўсяго іншага.

Уражанне ад гэтага спектакля асталося аграмаднае. Як заўжды ў Васіля Быкава, яго героі і ў гэтай пастаноўцы, у спектаклі „Знак бяды“, выстаўлены на пакуты і крайняе змаганне з уласным лёсам, а ў адзіночны іх лёс, у мужыцкі лёс Петрука, яго жонкі Сцепаніды, іх дзяцей і знаёмых, упісана аўтарам трагічная і шматпакутная але і гераічная, змагарская гісторыя ўсяго беларускага народа. І з усім гэтым акцёры рускага тэатра справіліся паспяхова. Асабліва запамятаўся мне А. Ткачонак у ролі Петрука і Вольга Калабановіч у ролі Сцепаніды. Усе акцёры гаварылі на мовах сваіх персанажаў, якіх яны прадстаўлялі. Беларусы — па-беларуску, палякі — па-польску, немцы — па-нямецку... і г.д. Гэта перашкаджала крыху зразумець тэкст, але набліжала атмасферу спектакля да сапраўднай рэчаіснасці, якую перажывалі калісьці яго героі.

Ужо дома даведаўся я, што паводле гэтага ж „Знака бяды“ Быкава пастаўлены двухсерыйны фільм. Варта тады сачыць за гэтым. Можа, і нам на нашых шкляных экранах пашчасліўціца яго пабачыць.

Вышаў я з віцебскага тэатра шмат багацейшы духоўнымі перажываннямі.

**Віктар Рудчык**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Урок беларускай мовы ў другім класе Падставовай школы № 1 у Гайнаўцы. Вядзе ўрок Анастасія Цімошук. Другакласнікі ўжо ведаюць амаль усе беларускія літары і вельмі прыгожа спяваюць і танцуюць беларускую песеньку „Ладушкі, ладушкі“. Фота Я. Чэрнякевіч.

Яўген Пярмяк




Аднойчы ў звычайны дзень, не ў суботу ані ў нядзелю, у звычайную пятніцу раптам у хаце пачалі ўсё чысціць, шараваць, трэсці ходнікі. Нават абрус іншы на стол паклалі. Белы, які трымаюць на вялікія ўрачыстасці.

Вярнуўшыся са школы, Рыгорка здзівіўся яшчэ больш. У сенцах яшчэ ён пачуў цудоўны пах. Відаць, не проста варыцца абед, капуста ці суп ды катлеты, а пірагі.

— Якое свята сёння, бабуля?

— Ды ніякага свята быццам і няма. Звычайны дзень. Пятніца як пятніца...

„Які ж гэта звычайны дзень, — падумаў Рыгорка, — калі на стале святочныя талеркі? Не, не падобна гэтая пятніца на іншыя. Нездарма ж бабуля надзела святочную сукенку, а дзед выстраіўся ў вышываную кашулю“.

— Пацярпі, — шапнуў ён Рыгорку, — убачыш.

Калі так, дык Рыгорка перастаў дапытвацца. Цікаўнасць, выпытванне, чаплянне — не мужчынская справа. Так неаднойчы казаў яму старэйшы брат: трохі раней ці пазней — і так даведаешся.

А пірагоў было нават два. Адзін з мясам, другі з узоркамі, салодкі. Мабыць, бабуля з дзедам зноў нейкую гадавіну святкуюць.

Першай вярнулася з працы мама. Вярнулася і таксама пачала прыбірацца. Потым прыйшоў тата. Прыйшоў, але не пачаў падганяць бабулю даваць хутчэй абед.

— А дзе Валодзя? — спытаў Рыгорка ў таты. — Чаму вы не разам вярнуліся з фабрыкі?

— Ён пазней прыдзе, прасіў пачакаць.

— Непрыгожа змушаць іншых чакаць, — прабурчаў Рыгорка. — Мяне вучыць не спазняцца, а сам...

— Такі ўжо ў яго сёння дзень.

— А што за дзень такі? — спытаў Рыгорка.

— Даведаешся.

Час мінаў паволі. Бабуля штораз адхінала заслонку і глядзела ў акно. Маці прыслухоўвалася да кожнага стуку. Валодзю чакалі так, быццам усё цяпер ад яго залежала.

Каб стрымаць нецярплівасць, Рыгорка пачаў думаць пра трусікаў, якіх яму вельмі хацелася завесці, і аб тым, як будзе даглядаць іх. Калі збрыдла думаць аб кроліках, заняўся гумовымі ботамі. Яны былі яму, здаецца, яшчэ больш патрэбны, чым кролікі, таму што ў звычайных чаравіках няма як хадзіць з татам на паляванне. А ў гумовых ботах кроч сабе хоць праз усё балота. Наогул іх Рыгорка лічыў найлепшым абуткам, але толькі адзін Валодзя разумеў яго і згаджаўся з ім.

Так, Рыгорка любіў і тату, і маму, і дзядулю, і бабулю, але ніхто з іх не разумеў яго так, як Валодзя. Таму, што брат быў яшчэ нядаўна дакладна такім як Рыгорка, і не паспеў разлюбіць усё тое, што здаецца непатрэбным дарослым.

Пакуль Рыгорка раздумваў пра ўсё гэта, стукнула брамка і пачуліся хуткія крокі Валодзі. Усе кінуліся яму насустрач.

Валодзя прынёс цэлую гару пакецікаў, паклаў іх на лаўку і пачаў раздзявацца. Усе паставалі перад ім, як перад ёлачным Дзедам Марозам.

— Не муч, — сказала бабуля, — раскручвай.

— Зараз, бабуля, зараз, — заспяшаўся Валодзя. — Гэта табе мама, — сказаў падыходзячы да маці і падаючы ёй карабочак.

У карабку быў высокі грэбень. Мама голасна ахнула і сказала:

— Які цудоўны!

Яна падбегла да люстра, сашпіліла грэбенем валасы, а потым абняла Валодзю:

— Ну як ты мог ведаць, што я якраз такі хацела мець.

Потым Валодзя падышоў да таты:

— А табе адвёрткі розных памераў. Напільнікі плоскія і трохбаковыя, круглыя — розныя...

— Кусачкі і клешчы — харошыя вешчы, — смеючыся, падхапіў бацька, разглядаючы інструменты.

Бабулі Валодзя падарыў хатнія туфлі. І яна адразу надзела іх.

Дзед атрымаў люльку і пачку табакі. І ён таксама падзякаваў Валодзю, называючы яго Уладзімірам Іванавічам.

(Працяг на стар. 10)

Новыя вершы

ВІКТАР ШВЕД

### ТАМАРА КУПІЦЬ АКУЛЯРЫ

— Бабуля, пачытай хвілінку
Казку пра бурага мядзведзя.
— Ох, не магу, мая дзяўчынка,
Згубіла акуляры недзе.

Засумавала тут Тамара:
— Чытаць не хочаш, дарагая.
Куплю сабе я акуляры,
Тады сама ўсё прачытаю.

### КАЛЯРОВЫ ТЭЛЕВІЗАР

Тата ўрэшце стрымаў слова,
Федзя доўга так прасіў,
Тэлевізар каляровы
Сёння ў горадзе купіў.

Каляровa на экране,
Каляровы цэлы свет.
Усе ў хаце хочуць глянуць,
Мама ды з бабуляй дзед.

І цікаўныя суседзі
Заглядаюць у акно.
Ды пачуўся раптам Федзя
Як у горадзе ў кіно.

### РАСКАЗВАЕ БАБУЛЯ КАЗКІ

Расказвае бабуля казкі
Унучцы, што ляжыць у ложку.
Малая просіць: — Зрабі ласку,
Яшчэ мне парасказвай трошкі.

Прысядзь тут ля мяне паблізу,
Каб словы недзе не канулі.
Ты цікавей за тэлевізар
Расказваеш, мая бабуля.

### ДА ВЯСЕЛЛЯ ЗАЖЫВЕ, ДАЧУСЯ

Толькі зробіць боль сабе які —
Хуценька бяжыць дахаты
з жалем.
Са спакоем ёй тады бацькі
„Да вяселля зажыве“ — казалі.

А калі скалечылася зноў
І раптоўна боль пабег па целе,
Прыімчала з крыкам
да бацькоў:
— Дык рабеце ж гэтае вяселле!

### ЧАМУ МНЕ ГУМУ НЕ КУПІЛА

У вёску ўпершыню з матуляй
Паехала калісь дзяўчынка,
І там убачыла: красуля
Жавала жвачку безупынку.

Глядзіць малая поўна суму,
Ды ўрэшце з зайздрасцю
сказала.
— Купіла ты карове гуму,
А аба мне не памятала.

### ТЫ НАРАДЗІ МНЕ, МАМА, БРАТА

У хаце сумненька Адаму.
Раптам прыйшла матуля
з працы.
— Ты нарадзі мне брата, мама,
Зусім няма з кім забаўляцца.

— Сынок, работа ўсё, работа,
Няма свабоднае хвіліны.
— Дык, мама, ў вольную суботу
Ты нарадзіць магла бы сына.

### САМАХОДЗІКІ

У горад тата
Паехаў з Толікам,
А там рабяты
Ездзяць на роліках.

Тата, я многа
Маю ўжо годзікаў.
Купі на ногі
Два самаходзікі.

## САБАЧЫ СЫН

Сабачы сын, малы Барбос,
Убачыўшы, як у звярынцы Льва кармілі,
Зацяўкаў: — Я звярыну б перарос,
Каб гэтакія ўмовы мне стварылі?
З'ядае мяса — паўбыка!
А клетка?! Не мая канурка...
...Ўлічылі пажаданне шчанюка,
Каб ён не звягаў, што зацокан:
Прызначылі ільвіны рацыён,
Еш мяса — хоць распеража́йся...
Расці, да Льва цягніся!
Ды... штосьці ён —
Хоць год мінуў і два —
Не можа дарасці да Льва.
Бо цюцьку гэткая не па плячы задача.

---

Так іншага — азалаці,
Няма глуздоў — не падрасці!
А звягае, даруйце, як той сын сабачы...

**Пятро Красюк**



# НІЎКА



## ТАКІ ДАКЛАДНЮСЕНЬКА

Ехала адна цётанька з невялічкай станцыі Берастовенькі. На вузловай станцыі выйшла з вагона, купіла свежых булачак. А цягнік якраз рушыў, дык яна і ўскочыла ў першы-лепшы вагон, але... сустрэчнага цягніка.

Праязджаючы сваю станцыю, яна прачытала: „Берастовенькі“. — і кажа суседзям па купэ:

— Ну і дзіва! Не думала, што ёсць недзе на свеце іншыя Берастовенькі, ды яшчэ такія дакладнюсенька, як у нас!

## БЛІЗНЮКІ

— Мая жонка з блізнюкоў.

— І ты ні разу іх не пераблытаў?

**— Не-е-е. Яе брат носіць бараду...**

## ЗАЯЦ У БАКАЛЕЙНАЙ КРАМЕ

У бакалейную краму ўваходзіць заяц.

— У вас ёсць какава? — пытае ён у гаспадара.

— Не, у нас няма какавы.

На другі дзень заяц зноў прыходзіць у гэту краму.

— У вас ёсць какава? — пытае ён у гаспадара.

— Не, у нас няма какавы.

На трэці дзень зноў прыходзіць туды ж.

— У вас ёсць какава? — пытае ён.

— У нас няма какавы, але калі ты прыдзеш яшчэ раз, я прыб'ю цвікамі твае вушы да прылаўка!

У наступны дзень заяц зноў прыходзіць у краму.

— У вас ёсць цвікі? — пытае ён.

— У нас няма цвікоў! — крычыць гаспадар.

**— У такім выпадку, можа, у вас ёсць какава?..**



**— Сяджу над кнігай! — дзынкала муха.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Сусед, заўзяты балельшчык, кажа суседу:

— Сямейная здрада, — гэта, Імра, усяроўна, як бы гарачы прыхільнік браціслаўскага „Слована“ ў цяжкую хвіліну пачаў хварэць, скажам, за „Інтэр“!

*

— Не забудзь, — гаворыць паміраючы шатландзец жонцы, — што наш сусед Патрык вінен нам пяцьдзесят фунтаў.

— Не забуду.

— І не забудзь, што мы вінны Макорміку тры фунты.

— Госпадзі! — уздыхае жонка. — Зноў ён трызніць...

*

У парыжскім камісарыяце паліцыі чуецца тэлефонны званок, і мужчынскі голас паведамляе:

— Я хацеў бы вас папярэдзіць, што сёння ў дзве гадзіны дня ў Булонскім лесе адбудзецца паядынак...

— Мы ўжо ведаем, мсье, — адказаў дзяжурны. — Ваш сапернік паведаміў нам аб гэтым яшчэ паўгадзіны назад...

## ТАКСАМА ЛОГІКА

Нейк у абед з поля дадому неспадзявана прыехала жонка. І да мужа:

— Агіднасць! Парася галоднае, а ён у карты гуляе.

— Адкуль ты ведаеш, што яно галоднае?

— Калі б не галоднае, дык маўчала б, а то крычыць.

— Ты на мяне кожны дзень крычыш, але гэта не значыць, што ты галодная, — спакойна адказаў муж.

**З „Весніка Задрыпоніі“**

## ЭКІПІРОЎКА ПАДВЯЛА

Працаўнік жыллёвага кааператыва „Стымул“ Мірон Мурашкевіч прабег стометроўку з новым сусветным рэкордам. Аднак рэкорд афіцыйна зарэгістраваны не быў, паколькі Мірон бег у ботах, у целагрэйцы і з лапатай у руках.

## АБ'ЯВА

Мяняю часовае месца працы на сталае месца ў доме адпачынку.

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё.

## КВЕТКА ПАПАРАТНІКА
### (З рэпертуару „Сяброў“)

**Вабяць азёрныя далі**
**Ціхай вячэрняй парой,**
**Дзе мы адноўчы шукалі**
**Папараць-кветку з табой.**

**Зоры з табой мы лічылі**
**Каля азёрнай вады.**
**Кветкай чароўнай, дзяўчына,**
**Стала ты мне назаўжды.**

**Прыпеў:**

**Папараць-кветка зыходзіць,**
**Папараць-кветка зыйдзе;**
**Шчасце само не прыходзіць,**
**Побач з каханнем ідзе.**

**Чыстыя воды купалля,**
**Лес прыазёрны і луг**
**Нам падарылі каханне**
**Шчасцем азораных рук.**

**Шэпчуць дрымотныя далі**
**Голасам птушкі начной.**
**Папараць-кветку шукалі,**
**Шчасце знайшлі мы з табой.**

**Прыпеў.**



**З суседскага агародчыка.**





**На прыём да стаматолага.**

# Курёзы

## ЦЭННЫ ПРЫЗ

Конкурс на каралеву прыгажосці, праведзены ў іспанскім горадзе Севільі, — падзея, здавалася б, мясцовага маштабу. А вось атрымала галоску нават за межамі Іспаніі. І то не дзякуючы гучнай рэкламе, як гэта робіцца ў Амерыцы, ды й не дзякуючы нейкім асаблівым якасцям „каралевы“. Не, ролю ў гэтым згуляў прыз: пераможцы конкурсу была абяцана праца.

Калі ўлічыць, што ў Іспаніі, як у сувязі з гэтым паведаміла агенцтва Рэйтэр, 20 працэнтаў працаздольнага насельніцтва краіны складаюць беспрацоўныя, дык прыз гэты і сапраўды можна лічыць за каралеўскі прывілей.

## З КНІГІ ГІНЕСА

Бадай, непаўторны рэкорд „адкалоў“ амерыканец Глін Уолф, які за сваё 73 гады 24 разы ўступаў у шлюб і мае 40 дзяцей, старэйшаму з якіх 56 гадоў, а малодшаму — 2 гады.

## З ТЛУМАЧАЛЬНАЙ ЗАПІСКІ

„Прыехаў дадому, з жонкай не сварыўся, заснуў за сталом і захроп так, што суседзі выклікалі міліцыю і мяне завезлі на пятнаццаць сутак“.





**Старым можна стаць у любым узросце. Ды лепш дацягнуць да пенсіі.**